*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года
№ 22(407) 2 ЧЭРВЕНЯ 1999 г.

## Пікеты за мову




25 траўня ў Менску з 17 – 19 гадзін на плошчы Я.Коласа і ў Міхайлаўскім завулку, што побач з чыгуначным вакзалам адбыліся пікеты, наладжаныя ТБМ.

На пікет, што адбываўся на пл. Я. Коласа прыйшлі з плакатамі таксама і вучні 9 "А" СШ № 191. У ім удзельнічала каля 25 сяброў Таварыства.

У Міхайлаўскім завулку сабралася каля сарака ўдзельнікаў, збіраліся подпісы за нацыянальны ўніверсітэт. Канец працоўнага дня, таму народу было шмат.

Змест плакатаў і транспарантаў пікетчыкаў быў: "Пачні з сябе, гавары па беларуску!", "Беларусы, дзе наша мова!", "Спыніць русіфікацыю", "Вёска русіфікуецца!". "Упершыню 87 вясковых школ за 2-а апошнія гады перайшлі на рускую мову", " У Менску ў СШ № 44 імя Я.Коласа не засталося ніводнага беларускага класа", "У СШ № 19 імя Я.Купалы не засталося ніводнага беларускага класа", "У Савецкім раёне г.Менска па-беларуску не навучаецца ні адзін першакласнік", а таксама шмат іншых.

Як адзначыў старшыня ТБМ сп.Трусаў акцыя прайшла ўдала. Але ў будучым будзем працаваць, каб такія акцыі праводзіліся ва ўсіх гарадах Беларусі аднachасова.

*Алесь Гурыновіч.*

## Памяці песняра

25 траўня – у дзень, калі М.Багдановіч сканаў "у краіне светлай..." сонечным днём адбылася цырымонія ўшанавання яго памяці.

Да помніка песняру прыйшлі прадстаўнікі ТБМ, Саюза пісьменнікаў, студэнты, школьнікі.

Адчыніў імпрэзу пранікнёнымі словамі загадчык музея Багдановіча Мікола Трус. Таксама з прамовамі і вершамі прысвечанымі генію беларускай паэзіі выступілі: сакратар Саюза пісьменнікаў Навум Гальпяровіч, паэт Анатоль Вярцінскі, намеснік старшыні БНФ Лявон Баршчэўскі, паэт і бард Эдуард Акулін, Данута Бічэль-Загнетава з Гародні, паэтка Антаніна Хатэнка. Бічэль-Загнетава ў сваёй прамове сказала, што яе зямлякі ў гэты дзень ускладуць кветкі да помніка маці паэта Марыі Апанасаўны, якой споўнілася б сёлета 130 гадоў.

У канцы імпрэзы прысутныя ўсклалі кветкі да помніка.

Пасля акцыі ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы адбылося жалобнае набажэнства. Вечарам у беларускай хатцы прайшла вечарына з удзелам Дануты Бічэль-Загнетавай.

*Святлана Гайдукевіч.*

## ТБМ пайшло на перарэгістрацыю

28 траўня кіраўніцтва ТБМ здало дакументы ў Міністэрства юстыцыі на перарэгістрацыю.

У сваю чаргу ў Сакратарыяце ТБМ прайшлі перарэгістрацыю больш 70 арганізацый ТБМ. Арганізацыі, якія не пройдуць перарэгістрацыю да 25 чэрвеня будуць зачынены.

## Беларускаму класу ў СШ № 191 быць

У мінулым нумары "НС" мы надрукавалі зварот да ТБМ вучняў 9"А" СШ № 191 аб дапамозе адстаяць іх правa вучыцца ў сваім класе на роднай мове. У сваю чаргу ад Таварыства дасланы зварот міністру адукацыі РБ Стражаву В.І.

***Паважаны Васіль Іванавіч!***

***Нягледзячы на аптымістычныя выказванні некаторых прадстаўнікоў уладных структур аб тым, што з беларускай мовай навучання ў нашай краіне няма ніякіх праблем, пад пагрозай закрыцця апынуўся яшчэ адзін беларускамоўны (дзевяты!) клас.***

***У Сакратарыят ТБМ звярнуліся вучні 9 "А" класа СШ № 191 г.Менска з просьбай дапамагчы ім захаваць клас, у якім яны 9 гадоў вучыліся на беларускай мове. Пра сітуацыю ў гэтым класе ўжо пісалі некаторыя беларускія газеты (ксеракопіі артыкулаў дадаюцца), але станоўчых зрухаў пакуль няма.***

***Дасылаю Вам копію ліста вучняў вышэйзгаданага класа і прашу Вас у адпаведнасці з артыкулам 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь станоўча вырашыць гэтае пытанне.***

***Таксама дасылаем Вам нумар газеты "Наша слова" з Вашым дакладам.***

***Спадзяёмся на плённае супрацоўніцтва ў галіне пашырэння беларускамоўнай адукацыі.***

***З павагай***
***Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*** ***Алег Трусаў.***

І вось на апошнім званку дырэктар школы заявіў: "Беларускаму класу быць". Высілкі ТБМ і незалежнай прэсы не аказаліся марнымі.

Па нашых звестках падобнае становішча назіраецца і ў іншых СШ, дзе існуюць 9-я беларускія класы, іх лёсам мы будзем займацца таксама. Просьба да вучняў ці іх бацькоў пры пагрозе зачынення ці расфармавання беларускіх класаў інфармаваць ТБМ і прыносіць звароты аб дапамозе.

Як будуць складвацца абставіны надалей па гэтай праблеме, мы будзем прадаўжаць інфармаваць грамадскасць.

*Алесь Гурыновіч.*

## Фестываль "Сымон-музыка"

24 траўня 1999 года дзесяты раз сабрала стаўбцоўская зямля юных музыкантаў на Рэспубліканскі фестываль "Сымон-музыка". Яго адкрыццё адбылося на хутары Ласток, дзе правёў юначыя гады Якуб Колас. Трыста пяцьдзесят маладых талентаў з розных рэгіёнаў Беларусі прыехала на свята. Гэта былі тры дні творчай працы, сустрэч з вядомымі пісьменнікамі, артыстамі, кампазітарамі. А над усім панавалі народныя мелодыі, музыка , песні, танцы.




На здымку: хутар Ласток прымае ўдзельнікаў фестывалю.
Фота Яўгена Казюлі. БЕЛТА. --0--ТА/ТМ

## Адкрыццё нацыянальнага цэнтра культуры

Пры нацыянальнай беларускай гімназіі № 4, што ў Кунцаўшчыне, адбылося святкаванне Юр'ева дня і адкрыццё нацыянальнага цэнтра культуры. Сам цэнтр уяўляе сабой гасцёўню, у якой зараз адкрыты вернісаж мастака Аляксандра Грыгор'ева на тэму "Палессе". У гасцёўні размешчана стылізаваная беларуская хатка, з печчу, побач стаіць "журавель". На пачатку святкавання ў гасцёўні перад вучнямі выступіў дзіцячы ансамбль гімназіі "Ластаўкі".

На прыступках перад прысутнымі, а народу было нямала, выступілі госці: паэт Генадзь Бураўкін, бард Эдуард Акулін, кіраўнік ансамбля "Ліцьвіны" Уладзімір Берберaў, пісьменнік Уладзімір Арлоў, мастак Дзягілеў, намеснік старшыні ТБМ сп. Лавіцкі.

У мастацкай частцы выступалі дзіцячы мастацкі гурт "Жалейка", мастацкі жаночы гурт з Бярэзінскага р-на. У заключным слове дырэктар гімназіі Юры Міхайлавіч Бандарэнка сказаў: "Дай бог, каб гэтая маленькая хатка стала вялікім беларускім домам".

Мастак Аляксандр Грыгор'еў распавёў аб планах працы нацыянальнага культурнага цэнтра, мяркуецца запрашаць для выступлення перад вучнямі цікавых людзей, ладзіць тэматычныя вечарыны на тэмы гісторыі, фальклору, літаратуры. У гасцёўні ёсць відэа, плануецца наладзіць прагляд фільмаў у перакладзе на беларускую мову. Трэба адзначыць, што гэта цудоўнае мерапрыемства не магло б адбыцца без намаганняў такіх людзей як дырэктар гімназіі Юры Міхайлавіч Бандарэнка, кіраўнік суполкі ТБМ "Берагіня" Тамара Іванаўна Баранава, загадчыца культурнага цэнтра музея Валянціна Іванаўна Быліна, а таксама мастака Аляксандра Грыгор'ева.

Пасля імпрэзы шаноўныя госці разышліся па класах, дзе выступілі перад вучнямі.

*Алесь Гурыновіч.*

## "Народная воля" уступіла ў ТБМ

На мінулым тыдні ў ТБМ адбылася прыемная падзея. У нас з'явілася новыя сябры. Калектыў незалежнай газеты "Народная воля" у колькасці 20 чалавек разам з такімі асобамі, як Іосіф Сярэдзіч, Шчукін Валеры Аляксеевіч і інш. уступілі ў Таварыства. Старшынёй суполкі з'яўляецца Кліменцена Святлана Ульянаўна. Напэўна не трэба казаць, які ўнёсак робіць "Народная воля" ў абарону беларускай мовы. Мяркуем у наступных нумарах "НС" адбудзецца інтэрвію з сябрамі гэтай суполкі.

Будзем спадзявацца, што і іншыя палітычныя і непалітычныя сілы нашай краіны зразумеўшы, што змаганне за мову - галоўнае ў барацьбе за Беларусь, прыйдуць да нас.

*Алесь Гурыновіч.*

## Відэа па-беларуску!

Нядаўна пачаў ажыццяўляцца праект па дубляваным перакладзе на беларускую мову мультыплікацыйных стужак для дзяцей. Першым творам гэтага праекту стала вядомая дыснееўская анімацыя "Прыгажуня ў сонным лесе". Гэтая стужка ўжо перакладзеная на расейскую мову, але агучаная адным голасам. У адрозненне ад расейскага варыянту беларускамоўная версія фільма дубляваная па ролях прафесійнымі акцёрамі і мае лепшыя гукавыя якасці.

Хутка на відэа з'явіцца яшчэ адна дыснееўская стужка: агучаная па-беларуску класічная казка "Аліса ў краіне цудаў". Гэтаксама плануецца выпуск аўдыёкасеты з беларускімі калыханкамі і казкамі.

Варта адзначыць, што на Беларусі такі праект ажыццяўляецца ўпершыню.

Асобы, зацікаўленыя ў рэалізацыі праекта, могуць рабіць свае прапановы, звярнуўшыся па тэлефоне: (017) 256-81-13 да сп. Валянціны Лецкі.

Атрымаць відэакасету з казкай "Прыгажуня ў сонным лесе" можна на сядзібе ТБМ у Менску. Для іншагародніх касету можна замовіць па пошце.

Адрас ТБМ у Менску: 220005, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон для даведак: 284-85-11



№ 22(407) 2 ЧЭРВЕНЯ 1999 г. наша слова

# Выступ Старшыні Дзяржкамдруку Міхася Падгайнага на VI з'ездзе ТБМ аб стане беларускамоўнага друку ў Рэспубліцы Беларусь

Паважаная грамада!

У сваім выступленні я не буду прыводзіць нейкія лічбы адносна колькасці беларускамоўных выданняў ці новых кніжак, што з'явіліся за апошні год. Скажу толькі, што зрабіць пэўныя высновы мне дапамог наш кніжны гандаль. Вы маглі звярнуць увагу, што ў мінулым годзе выйшла цудоўная серыя беларускамоўных кніжак – творы Барадуліна, Бураўкіна, Някляева, Пранчака, Еўдакіі Лось, Івана Шамякіна, і гэты шэраг можна падоўжыць, бо штогод з'яўляецца амаль 180 новых кніг, якія выходзяць пры падтрымцы дзяржавы.

Кожны раз, ездзячы ці то па рэспубліцы, ці то па Менску, я абавязкова заглядаю ў кнігарні, сустракаюся з прадаўцамі, і ўсе яны пад-



Афіцыйныя прадстаўнікі ўлады-госці УІ з'езду ТБМ, у першым радзе злева-направа: Старшыня Дзяржкамдруку Міхась Падгайны, намеснік Кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч, Міністр адукацыі Васіль Стражаў. *Здымак Ю. Дзядзінкіна*

крэсліваюць, што на сёняшні дзень вельмі не хапае беларускай дзіцячай літаратуры. Хай гэтыя кніжкі дарага каштуюць, але яны мусяць быць, прычым, мусяць мець прывабнае афармленне.

Тым не меней у нашых кнігарнях багата кніжак, якімі без перабольшання можна ганарыцца. Так, кнігі, якія з'явіліся ў выдавецтве "Юнацтва" ў 1998 г., мы ўжо сёння можам павезці на шматлікія міжнародныя выставы ў Варшаву, Кракаў, Тэль-Авіў, у якіх мы прымаем удзел штогод, і я магу з гонарам адзначыць, што наша беларуская паліграфія не згубіла свой набытак, яна яшчэ і сёння развіваецца і будзе праслаўляць нашу Беларусь ва ўсім свеце праз творы нашых беларускіх аўтараў.

Што да выдання часопісаў, газет, дык у канцы мінулага года, дзякуючы гранту прэзідэнта, газета "Культура" пачала выходзіць на 16 паласах у паўнакаляровым варыянце. Сярод часопісаў, якія падтрымлівае дзяржава, можна назваць "Полымя" і "Маладосць". Новымі фарбамі заззяў часопіс "Першацвет", у якім могуць друкаваць свае вершы студэнты, школьнікі, якія толькі яшчэ пачынаюць тварыць на сваёй роднай мове.

Недзе на 4-м курсе Радыётэхнічнага інстытута я прачытаў "Дзікае паляванне караля Стаха" У. Караткевіча", пасля чаго захапіўся беларускай мовай, быццам быў ёю зачараваны. Гэтым я хачу сказаць, што тыя творы, якія пішуць сёння нашы пісьменнікі, і якімі сёння захапляецца моладзь – гэта шлях да развіцця беларускай мовы. Таму пішыце, тварыце, падтрымлівайце беларукую мову, і тады яна будзе жыць!

Дзякуй за ўвагу.



Ганаровы госць УІ з'езду ТБМ старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі. *Здымак Ю. Дзядзінкіна*

**Віктар Астрога**

# БЕЛАРУСКІ ЛЕКСІКОН ВАЙСКОВАЙ УНІФОРМЫ І РЫШТУНКУ

*(Працяг. Пачатак у №№ 20-21)*

**—П –**

**ПАВЯЗКА НАРУКАЎНАЯ (АПАСКА)** – простакутны кавалак тканіны, павязаны на руцэ ў якасці адзнакі, з надпісам ці малюнкам. У сакавіку 1918 г. Беларускі Нацыянальны Камітэт (Адэса) загадаў беларусам-вайскоўцам насіць на левай руцэ павязку нарукаўную нацыянальных колераў, як знак адрознення.

**ПАДКАЎНЕРЫК (КАЎНЕРЫК)** – простакуты кавалак белай тканіны, які штодзённа нашываецца на ўнутраны бок каўняра вайсковай кашулі, курткі жаўнерамі, сяржантамі, а таксама прапаршчыкамі і афіцэрамі ў палявых умовах. Уведзены ў савецкім войску ў 1935 годзе, існуе і ў беларускім.

**ПАДКОЎКА** — жалезная загнутая па форме дужкі пласцінка, якая прымацоўваецца да долу абцаса бота ці чаравіка дзеля захоўвання яго ад пашкоджанняў. Замест П. могуць набівацца цвікі з вялікімі плешкамі.

**ПАЛІТО** — верхняя расхіная вопратка, звычайна са шчыльнага матарыялу і кішэнямі, ніжэй каленяў. У беларускім войску П. колеру хакі замяніла савецкі шынель.

**ПАЛЬЧАТКІ** — вырабы з тканіны, нітак, скуры з аддзяленнем для кожнага пальца, якія надзяюцца на кісці рук. Упрыгожванне і ахова для рук. Існуюць парадныя – белыя і будзённыя – карычневыя П.

**ПАНТОФЛІ** – ( ад франц. Pantoufle – коркавы абутак) – лёгкі абутак, накшталт напоўчаравікаў.

**ПАНЦЫРНАЯ КАМІЗЭЛЬКА** – кароткая ахоўная вопратка без каўняра і рукавоў са ўстаўкамі з металёвых альбо іншых трывалых пласцінаў.

**ПАПАХА** – высокая шапка з баранкавага футру. У беларускім войску П. носяць пачынаючы ад палкоўніка альбо гэткую ж аблавуху.

**ПАРТУПЕЯ** – ( ад франц. porte-epee – насіць шпагу) – афіцэрская дзяга, пендэнт, перавяз дзеля нашэння кайстры, похваў, біклагі і інш.



**ПАС** — стужка, матуз, дзяга, звычайна з тканіны, дзеля завязвання, зашпільвання па стану. П. у беларускім войску прыналежнасць плашча.

**ПЕНДЭНТ** — вайсковая дзяга з брызенту ці скуры. У беларускім войску будзённая – карычневая, парадная – белая.

**ПІЛОТКА** — ( ад франц. Pilote – лётнік — летні форменны галаўны ўбор у вайскоўцаў. У беларускім войску носяць мужчыны жаўнеры, сяржанты, курсанты ў складзе парадная ўніформы.



**ПЛАНШЭТ** – ( ад франц. Planchette – дошчачка) – пласмаватая кайстра з празрыстым верхам для нашэння мапаў.

**ПЛАШЧ – НАКІДКА** (сапраўдн. **ПАЛЕРЫНА** ад франц. Pelerin – падарожнік) афіцэрская верхняя вопратка шырокага крою без рукавоў, але з проразамі для рук, і з капялюхам.

**ПЛАШЧ – НАМЁТ** — жаўнерская палерына, больш простага чым афіцэрская крою, прыстасаваная дзеля выкарыстання, як у якасці вопраткі, гэтак і намёту.

**ПОХВА** — чахол для халоднай альбо агнястрэльнай зброі, асабліва пісталетаў.

**ПРАГАЛ** — каляровы пас на наплечніку. У беларускім войску колер П. адпаведны колеру прыборнага сукна.

**ПРЫБОР** – вонкавае аздабленне мундзіра. Існуе металёвы і суконны П.

1.П. металёвы – колер усіх металёвых дэталяў мундзіра ( гузікаў, клямраў і інш.). Колерам прыборнага металу мог быць жоўты (золата, медзь, латунь) абобелы (срэбра, сталь, цына, глінец) П.М. розны для розных родаў войскаў і службаў. У беларускім войску ў 1-й пал. 90-х г.г. колерам П.М. быў белы, з 2-ой пал. – жоўты.

2. П. суконны – колер каўняроў, каўняровых нашывак, наплечнікаў, аблямоўкі, ляпаў і інш. У беларускім войску П.С. – аблямоўка на фуражцы, нагавіцах. Колер П.С. ВПС, мабільных сілаў, камандас – блакітны, іншых радоў і службаў –чырвоны .

**РУКАВІЦЫ** — зімовая ахоўнае начынне для рук з адзяленнем толькі для вялікага пальца, але ў вайсковых Р.ёсць другое аддзяленне для паказлівага пальца, каб націскаць на спускавую дужку. У беларускім войску: белыя, хакі, зялёны камуфляж.



**РЫШТУНАК ВАЙСКОВЫ** – перавяз, камплект (рэчаў) неабходных вайскоўцу дзеля нашэння асабістай зброі, ладунку і інш. Р.В. беларускага жаўнера складаецца з: 1. Пендэнт; 2. Лейцы плечавыя; 3.Торба гранатавая; 4. Чахол для біклагі; 5. Чахол для малой рыдлёўкі; 6. Ладунка; 7. Хатуль; 8.Чахол для ахоўных панчохаў і пальчатак.



**– С –**

**СКАФАНДР** ( ад франц. Scaphandre – чалавек у чоўніку) – адмысловы строй, індывідуальны герметычны рыштунак (камбінезон, абутак, шолам, пальчаткі) для дзейнасці чалавека ў надзвычайных умовах (пад вадою, на вялікіх вышынях і інш.) У войску С. выкарыстоўваюць вадалазы і лётнікі.

**СКРУТКА** – шынель згорнуты ў трубку і перавязаны па кончыках, дзеля нашэння праз плячо.

**СПОДНІЯ** – бялізна, мужчынскія споднія нагавіцы (кальсоны). У вайсковы камплект сподняй бялізны ўваходзіць і сподняя кашуля. У беларускім войску жаўнерскія С. белага колеру, афіцэрскія – блакітнага.

**СПРАЖКА** — металёвая зашпілька праз якую працягваецца дзяга ці пас. Беларускі афіцэрскі пендэнт мае рамкавую двухшпяньковую С.

**СІМВАЛ** – ( ад грэч .Symbolon – умоўны знак) – тое, што служыць умоўным знакам, эмблемаю. С. на вайсковых эмблемах часцяком выступаюць драпежныя звяры ды птушкі: "Зубр" – настойлівасць, дужасць, "Воўк" жорсткасць, лютасць, "Сокал" – шляхецтва, дужасць, розум. Вайсковы штандар- таксама С. Так 5-я Красовая пяхотная дывізія ў складзе Польскіх збройных сілаў на Захадзе, якая налічвала звыш 50% беларусаў мела нарукаўны знак "Зубр", сучасныя беларускія памежнікі сваёй эмблемаю маюць "Сокала". Напачатку 90-х г.г. Беларускаму войску ў якасці агульнавайскавага С. прапаноўваўся Штандар са старым літоўскім знакам – чырвоным крыжом апякуна драбаў Святога Юрыя на белым полі.

**– Т –**

**ТОРБА** – адмысловай формы невялікі мех, ёмістасць з тканіны, скуры і г.д. дзеля нашэння нечага. Гранатавая Т.

**ТУЛЛЯ** — верх, верхняя частка фуражкі над атокам. Высокая Т. характэрна для сучаснай беларускай фуражкі.

**– У –**

**УНІФОРМА ВАЙСКОВАЯ** (ад франц. uniforme) – форменная вопратка вайскоўца адметная колерам, кроем, знакамі адрознення і інш. Гісторыя вайсковай уніформы ў сучасным сэнсе слова пачынаецца ў XVII ст. Першыя ўніформы ўвёў шведскі кароль Густаў Адольф, але ўжо ў 1670 годзе французскі кароль Людвік XIУ заснаваў аднолькавую ўніформу для сваіх войскаў. Яе колер, тканіна, крой, колькасць гузікаў, знакі адрознення і ўпрыгожванні – ўсё было рэгламентавана. Некаторыя эўрапейскія дзяржавы адсталі з увядзеннем У. на цэлых сто гадоў. У. напачатку ўводзілася толькі для простых жаўнераў, афіцэры мелі права яшчэ колькі дзесяцігоддзяў апранаецца на свой густ. У XVIII ст. з'яўляюцца колькі новых кшталтаў У. і асобныя роды зброі пачалі розніцца не толькі арганізацыйна, але і па выгляду. Першая беларуская нацыянальная вайсковая У. была распрацавана ў кастрычніку 1919 г. Беларускай Вайсковай камісіяй. Першыя ўзоры У. сучаснага беларускага войска былі распрацаваны і зацверджаны ў 1993 г. Існуюць 4 яе асноўныя кшталты: 1. Парадная; 2. Будзённая; 3. Палявая; 4. Працоўная, якія ў сваю чаргу надзяляюцца на зімовую і летнюю. У склад гэтай уніформы ўваходзіць: верхняя вопратка (паліто, зімовая куртка, плашч-паліто, куртка, фрэнч, нагавіцы, кашуля і інш.), галаўныя ўборы (аблавуха, фуражка, пілотка, бярэт), бялізна, абутак, амуніцыя. Парадак выкарыстання У.В. вызначаецца правіламі нашэння вайсковай вопраткі. Права нашэння У.В. маюць дзейныя вайскоўцы, а таксама тыя іх катэгорыі, за якімі захавана гэтае права.

*(Заканч.ў наст. нумары)*





# СПОВЕДЗЬ ЗАХОДНІЦЫ

**(Інтэрвію з адступленнямі і дадаткам, узятае вучнем 7 "Г" класа школы № 8 г. Ліды Сазанаўцом Хведарам у Верабей Надзеі Максімаўны і дасланае на конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945-1965", арганізаваны Архівам найноўшай гісторыі)**

*(Заканчэнне. Пачатак у № 21.)*

**Адступленне № 3: Не толькі ад Надзеі Максімаўны мне вядома пра той час, хоць мне ён здаецца гэтакім далёкім, што нават немагчыма яго ўявіць. Мая бабуля Люба часта распавядае пра той час. У 52-ім годзе яна стала студэнткай Маладэчанскага настаўніцкага інстытута. Гэта быў паскораны курс навучання. Яны вучыліся толькі два гады. Дзяржаве патрэбны былі настаўнікі і як найхутчэй. Студэнцтва надзвычай галадала. Жылі тым, што накопвалі сабе трохі бульбы восенню, калі іх выпраўлялі на "бульбу". Праўда, рабіць гэта было вельмі небяспечна, бо маглі зрабіць злодзеем і пасадзіць у турму. У студэнцкай сталоўцы давалі бясплатна некалькі кавалачкаў хлеба. Да гэтага хлеба бабуля купляла некалькі іржавых селядцоў. Пасля такога харчавання мая бабуля на ўсё жыццё атрымала цяжкую хваробу страўніка. З той невялікай стыпендыі, якую атрымлівала мая бабуля, ёй яшчэ патрэбна было нешта адкласці, каб купіць сабе штосці з адзення, бо дапамагчы ёй ніхто не мог. Прабабуля Ганна ў калгасе грошай не атрымлівала. Памятае мая бабуля Люба той дзень, калі ў іх у інстытуце кудысці зніклі ўсе выкладчыкі-габрэі. А яшчэ добра памятае той дзень, калі памёр Сталін. Усе студэнты ды выкладчыкі моцна плакалі, а мая бабуля чамусці плакаць не магла. Выціскала з сябе слёзы, а яны не ішлі. Вельмі баялася, што нехта зараз заўважыць, што яна не плача. Заплакала толькі тады, калі ўспомніла, як памёр яе бацька.**

**Пасля інстытута мая бабуля паехала працаваць у вёску Лукашына. Выкладала ў школе хімію ды біялогію. Даводзілася нават некалькі гадоў выкладаць нямецкую мову, бо мая бабуля вайною наведвала беларускую школу ў Любчы і нямецкую мову ведала нядрэнна.**

**У 1963-ім годзе нарадзілася мая мама. Каб яе пахрысціць, мае бабуля з дзядулем паехалі ў іншую вёску. Хрысцілі маю маму ў 2 гадзіны ночы. Бабуля вельмі баялася, што нехта даведаецца і яе звольняць з працы.**

**Каля вёскі Лукашына некалі быў лес, у якім у пяцідзесятых гадах хаваліся тыя, хто не хацеў ісці ў калгас і каго не задавальняла савецкая ўлада. Розным савецкім актывістам небяспечна было ехаць праз той лес. Настаўнікаў тыя "банды-ы" не чапалі, толькі да дырэктаркі школы чапляліся, бо казалі, што яна кэдэбістка. Пасля тых людзей каго злавілі, каго забілі, хто ўцёк. Лес увесь высеклі і на тым месцы пасадзілі новы, роўнымі радочкамі. Зараз там добра грыбы збіраць, бо не заблудзішся.**

Вось такую гісторыю мне распавялі мая бабуля і знаёмая маёй мамы. Многае ў гэтай гісторыі мне не зусім зразумела. Але мама гаворыць, што калі я буду шмат чытаць літаратуры пра той час і слухаць старых людзей, я ўсё зразумею.

*Г.Ліда*
*Хведар Сазанавец*
*7 "Г" клас, школа № 8.*

**Комиссии при Гродненском областном Совете депутатов по оказанию содействия в обеспечении прав жертв политических репрессий 20-80-х годов и увековечении их памяти**
Г. Гродно, ул. Ожешко, 3, Облисполком к. 119, тел. 470192

**ЗАКЛЮЧЕНИЕ**

По материалам о возмещении имущественного ущерба причиненного незаконными репрессиями, Ващейко Анастасии Константиновне, прож. по адресу: РП 62-667 г.Познань, ул. Овсяна, 24, кв.4

"8" сентября 1994 г. № В-69/2076

Комиссия, рассмотрев материалы о возмещении имущественного ущерба Ващейко А.К., установила, что 18.04.52г. из д.Волковичи Новогрудского района на спецпоселение были выселены Ващейко Николай Максимович, Ващейко Анастасия Константиновна, Ващейко Василий Николаевич, Ващейко Владимир Николаевич и Ващейко Иван Николаевич.

При выселении семьи Ващейко было описано следующее имущество жилой дом, пристройки, сарай, амбар, гумно, корова, лошадь, теленок, шкаф, стол, три скамейки, две табуретки, кровать, хомут, подседелок, телега на железном ходу, два плуга, культиватор, окучник, веялка, соломарезка, котел, двое саней, зеркало, два ящика из-под зерна, три кадки, 30 пудов сена, 15 пудов кулевой соломы, четыре пустых улья, восемь кур (акт от 18.04.52г.).

Согласно акта № 26 от 4.10.52г., и отношения Новогрудского РОНО от 22.04.52 г. № 125 гумно, амбар и сарай переданы райконторе "Заготлен", правопреемником которого является Кореличский льнозавод, корова, телка и свиноматка с поросенком – колхозу "1 Мая", правопреемником которого является колхоз "Прогресс" Новоргудского района, жилой дом передан Новогрудскому РОНО; шкаф, кухонный стол, две табуретки, деревянная кровать, три скамейки, зеркало реализованы через торговую сеть и вырученные средства перечислены в районный бюджет.

Других документов, подтверждающих состав изъятого имущества при выселении семьи Ващейко, в архивах области не обнаружено.

На основании изложеного и руководствуясь Положением о порядке восстановления прав граждан, пострадавших от репресий в 20-80-х годах, комиссия пришла к заключению:

1. Возместить Ващейко Анастасии Константиновне стоимость гумна, амбара и сарая в размере 1481448 (один миллион четыреста восемьдесят одна тысяча четыреста сорок восемь) рублей (расчет прилагается) за счет средств Кореличского льнозавода;

Стоимость коровы, телки, свиноматки и поросенка в размере 829050 (восемьдесят двадцать девять тысяч пятьдесят) рублей (расчет прилагается) за счет средств колхоза "Прогресс" Новогрудского района;

Стоимость жилого дома с пристройкой, лошади, шкафа, стола, трех скамеек, двух табуреток, койки, хомута, подседелка с паском, телеги на железном ходу, двух плугов, культиватора, окучника, веялки, соломорезки, котла двух саней, зеркала, двух ящиков для зерна, трех кадок, 30 пудов сена, 15 пудов кулевой соломы, четырех пустых ульев, восьми кур в размере 2554120 (два миллиона пятьдесят четыре тысячи сто двадцать) рублей (расчет прилагается) за счет средств бюджета Новогрудского района.

2. Направить данное заключение исполкому Новогрудского и Кореличского районных Советов депутатов для принятия решений.

***Председатель комиссии С.М. Андреевский.***

# Усвядомленая закінутасць

## Быццёвыя падставы краёвага патрыятызму беларускае шляхты

I. Л. ахвярую.

Зацікавіўшыся праблемаю генезысу беларускай нацыянальенай ідэі, я мусіў звярнуцца да ейных вытокаў. Так volens nolens я апынуўся ў цянётах ХУIII ст., калі беларушчына ў шляхецкіх колах (усё магнацтва і значная частка сярэдняй шляхты) займала сваё непачэснае маргінальнае месца, не іграючы якой-небудзь важнае ролі ў акрэсленні патрыятычных настрояў. Па словах сучаснага беларускага гісторыка Генадзя Сагановіча патрыятызм шляхты ВКЛ быў палітычным і падбіваў парасткі патрыятызму нацыянальнага. Сапраўды, зажываючы палітычны патрыятызм, шляхта бачыла ягоным аб'ектам дзяржаву і прамінала собскую нацыянальную тоеснасць. Дзяржава для шляхты была гарантам размаітых прывілеяў і залатых вольнасцяў. Фактычным увасабленьнем гэтага гаранта сталася Польшча. Менавіта Польшча заняла дамінантнае становішча ў Рэчы Паспалітай (асабліва пасля жудаснага дэмаграфічнага крызісу ў ВКЛ сярэдзіны ХУII ст.).

Як можна памеркаваць, патрыятызм ладнай часткі шляхты ВКЛ быў угрунтаваны на матэр'яльных, нярэдка сваекарыслівых падставах. Заўсёды там, дзе адчувалася пагроза матэр'яльным інтарэсам, пачынаўся разлад з дзяржавай. Шляхта жыла сённяшнім днём, забываючы пра будучыню. Апошняя мэта міжволі перакідвае плынь думак у абсягі філасофіі. Паводле выдатнага нямецкага філосафа XX ст. Марціна Гайдэгера арыентацыя чалавека вылучна на цяперашчыну ёсць няпраўдзівым быццём, у якім "свет рэчаў" захінае ад чалавека ягоную сконнасць. Вось жа, для шляхты пастойныя балі і баляванні, частая паталагічная жорсткасць да падданых, міжсобныя спатычкі і г.д. і да т.п. былі акурат тым "светам рэчаў", за якім яна (шляхта) не бачыла ні собскае будучыні, ні будучыні дзяржавы, патрыётамі якой яна лічылася. Тут можна гаварыць нават аб спецыфічнай свядомасці, што паўстала на грунце арыентацыі на цяперашчыну. Відочна, што нават хрысціянства не ўздатнілася пераадолець гэтай свядомасці. Хаця зусім магчыма, што хрысціянства, вызнаючы сконнасць кожнага чалавека, пачатна выклікала ў шляхты экзыстэнцыйны страх (страх усведамлення непазбежнасці смерці), ад якога яна паспяшала схавацца ў прасцягу непраўдзівага быцця.

Пярэдадзень першага разбору Рэчы Паспалітай і сам разбор у 1772 г вымусілі шляхту "ўспомніць будучыню" – задумацца аб лёсе дзяржавы і аб сваім лёсе таксама, усвядоміць сваю сконнасць. Такім парадкам акрэслілася арыентацыя на будучыню, што азначала пераход да іншага кшталту быццёвай свядомасці. Паўстала разуменне **ТУТ-БЫЦЦЯ** (паводле М.Гайдэгера – "Dasein") — быццё ў свеце, у канкрэтным месцы; тут, куды закінуў лёс. Зямля пад нагамі шляхты перастала быць толькі маёмасцяй. Яна стала малой Радзімай. Менавіта ў другой палове ХУIII ст. з усё большай выразнасцяй акрэсліваецца так званы "краёвы патрыятызм" шляхты ВКЛ. Не парываючы з пальшчызнай, ён, па словах Адама Мальдзіса, супрацьстаўляўся патрыятызму "кароннаму", "польскаму". У сваім чыстым выглядзе краёвы патрыятызм, як сукупнасць эмацыянальных повязяў з роднай ("радзіннай") зямлёй быў схільны да ўспрыняцця беларушчыны. Здавалася, што ліквідацыя Рэчы Паспалітай павінна б была ўзмацніць падобныя працэсы. Але ўмяшанне ў праблему расейскага фактара спарадзіла феномен ліцьвінска-польскай салідарнасці, якая трывала аж да задушэння паўстання 1863-1864гг. Салідарнасць шляхты былой ВКЛ з этнічна польскай шляхтай на доўгі час замарудзіла працэс генезысу беларускай нацыянальнай ідэі, але ўсё ж не здолела занядбаць краёвы патрыятызм. Акурат у рэчышчы краёвага патрыятызму адбывалася (часта несвядома) генераванне беларускай нацыянальнай ідэі ці, прынамсі, паасобных ейных элементаў. Прыклады краёвага патрыятызму мы можам знайсьці ў тэкставай спадчыне такіх нашых землякоў, як Я.Аношка, Ю. Марлёўскі, А. Міцкевіч, Я. Чачот, Т. Зан, Я.Баршчэўскі, І. Ходзька, Р. Падбярэскі, Ул. Сыракомля ды інш. Усвядомленная закінутасць лёсам іх менавіта ў гэты край – Літву-Беларусь – дасконна не пакідала іхняй свядомасці, адрознівала ад карэнных палякаў.

*Сяргей Балахонаў,*
*г.Гомель.*

# Барысаўскай бібліятэцы 80 год

Барысаўскай Цэнтральнай гарадскай бібліятэцы споўнілася 80 гадоў.

Юбілей- добрая падстава, каб зазірнуць у гістарычнае мінулае, асэнсаваць дзень сённяшні і паглядзець у будучыню. Ад невялікай бібліятэкі да буйнога інфармацыйнага цэнтра Барысаўская бібліятэка прайшла доўгі і цяжкі шлях. Сёння Барысаўская ЦГБ – найбуйнейшая ўстанова ў горадзе з падборам друкаваных выданняў больш за 360.000 асобнікаў. Агульная колькасць часопісаў і газет – 437. Акрамя друкаванай прадукцыі бібліятэчны фонд утрымлівае інфармацыю на электронных носьбітах. Сёння звыш 36.000 гараджанаў з'яўляюцца чытачамі бібліятэкі. З прыемнасцю адзначаем, што ў бібліятэцы хутка адчыніць свае дзверы зала беларусазнаўства і краязнаўства.

На сённяшні дзень бібліятэка мае 4 камputары, мультымедыйнае забяспячэнне, мадэм, матрычныя друкарчыкі і іншае абсталяванне. Бібліятэк ўдзельнічае ў рэалізацыі праграмы ААН развіцця ў Беларусі сеткі "Інтэрнэт з мэтай узмацнення нацыянальнай і камунікатыўнай інфраструктуры, дзеля развіцця дэмакратычных рэформаў, удасканалення кіравання дзяржавай. Гэты праект фінансуе фонд "Еўразія". Барысаўская бібліятэка ўдзельнічала ў гэтым праекце і атрымала грант пад адпаведную праграму.

Адным з галоўных аддзелаў Барысаўскай бібліятэкі з'яўляецца хатні абанемент. Яго паслугамі карыстаюцца 4.900 чалавек. Кніжны фонд абанемента – 49.600 асобнікаў, а штогадовая кнігавыдача складае 67.700 асобнікаў літаратуры. Акрамя кніжнага фонду бібліятэка можа прапанаваць сваім чытачам 30 назваў часопісаў ("Беларусь", "Вакол свету", "Гаспадыня", "Алеся", "Гаспадар", "Навука і рэлігія" і іншыя). Супрацоўнікі абанемента рэгулярна праводзяць сустрэчы з беларускімі паэтамі і цікавымі людзьмі. А ў сакавіку сталася ўжо традыцыяй праводзіць беніфіс чытача. Вялікая ўвага надаецца прапагандзе беларускай літаратуры. Адкрытымі паліцамі, кніжнымі выставамі, аглядамі кніг, паэтычнымі гадзінамі, літаратурнымі кампазіцыямі адзначаюцца юбілеі беларускіх пісьменнікаў.

Рэдакцыя "Наша слова", сябры Таварыства беларускай мовы віншуюць супрацоўнікаў Барысаўскай бібліятэкі з нагоды яе 80-гадовага юбілею, зычаць доўгіх гадоў жыцця і плёну на ніве папулярызацыі беларускай літаратуры.

